Пятніца
29 снежня 2006 г.
№ 18 (26)
наклад 299 ас.
Рэдактар: Ігар Шчэкарэвіч

МП свой горад сваімі рукамі

ПРАЎДА мастоўская

Калі вы жадаеце атрымліваць у далейшым наша выданне, калі ласка, дашліце sms з паведамленнем адраса, на які павінна прыходзіць "Мастоўская праўда" на нумар :
+ 48 511 22 34 40

# Гудбай 24 - е склiканне

**22 снежня адбылася апошняя Сесія Мастоўскага раённага Савета дэпутатаў 24 га склікання. Цяпер гэта ўжо амаль гісторыя. Гісторыя Савета ў складзе якога былі 2 незалежныя, народныя дэпутаты.**

Сесія райсавета пачалася а 14 гадзіне, з 31 го абранніка прысутнічала толькі 25 дэпутатаў.

Не было ў залі маладога дэпутата Мілашэўскага, ні Мікалая Лісая ні камуніста Пудаўкіна.

Галоўнае пытанне сесіі - бюджэт Мастоўскага раёна на 2007 год.



Цікава, што фінансавы дакумент дэпутаты атрымалі за 5 хвілін да пачатку сесіі. Рэгламент Мастоўскага райсавета згодна з якім дэпутатам павінны дасылацца дакументы да падрыхтоўкі і за 10 дзён перад паседжаннем, быў у чарговы раз парушаны. З дакладам аб прагнозных паказчыках сацыяльна-эканамічнага развіцця раёна выступіў намеснік старшыні Мастоўскага райвыканкама сп. Булак. Ён заявіў, што дакумент "быў абмеркаваны на паседжанні райвыканкама, у прэзідыуме райсавета і дэпутацкіх камісіях.

Але ж якіх камісіях? Пытанне. Пытанне, бо **як** член камісіі па сацыяльных праблемах райсавета, **за чатыры гады я так і не быў запрошаны ні на адно з паседжанняў гэтай камісіі. Старшыня за 4 гады яе не збіраў!** Высокае кіраўніцтва напэўна падумала, што няварта гэта разглядаць. А сацыяльных праблем у раёне не проста шмат, а вельмі шмат!

Пасля даклада спадарыні Валянціны Енка толькі ў мяне ўзніклі пытанні па бюджэту. Мяне цікавілі наступныя пытанні: **1.** Колькі грошай будзе выдаткавана на адукацыю ў раёне? **2.** Куды канкрэтна будуць выдаткаваны сродкі, якія прызначаны на моладзевую палітыку? **3.** Вы сказалі, што бюджэт мае сацыяльную скіраванасць. Чаму так мала сродкаў выдаткавана ў раённым бюджэцена сацыяльную дапамогу грамадзянам? **4.** Сродкі на СМІ? Гэта грошы на СМІ ці толькі на раёнку? Думаю, што ім так многа сродкаў не варта выдаткоўваць.

*працяг на с. 2*

# EuroNews у кожную кватэру!

**У Мастах вельмі вялікімі тэмпамі ідзе сатэлітарызацыя насельніцтва.**

Людзі шпаркімі тэмпамі набываюць і ўсталёўваюць сабе сатэлітарныя антэны.

Справа ў тым, што нецікава мастоўскаму чалавеку глядзець на хлусню і прапаганду з экранаў айчыннага тэлебачання. **Людзі ў нас разумны!**. Большасць Мастаўчан зразумелі адкуль прапагандыцкія ногі растуць. Глядзіш "первый" ці "БТ" і быццам бы ў Раі жывешь. Так усё у нас добра, так справядліва, узровень жыцця самы лепшы ў СНД. Карацей, усе з голаду паміраюць, а мы тут жыруем. А калі вернешся ў кожнадзённую гонку за выжыванне, у галаве з'яўляюцца думкі хто так добра жыве? Кіраўнікі і прыбліжаныя да іх жывуць вельмі добра, а вось простыя, рабочы чалавек як не меў нічога так і не мае. Ўзнікае пытанне. А за каго галасаваць? Гэты быццам і дэмакрат, а канкрэтнай працы, зрабіў мала. А гэтыя крадуць. Але ж ад іх не слуху і не духу. Ні прывітанне табе, ні на ....

А тое што дэмакрат чагосьці не зрабіў дык недалі ж! Уся ўлада ў руках старых і лысых, а ім ужо даўно пара на адпачынак. Хопіць рабяты! Засядзеліся!!! **Дарогу маладым!**

**Мікола Целінскі**

## Войтович: 2006 год стал для Беларуси переломным

В своем обращении к соотечественникам он констатирует, что "народ, молодежь нашей страны показали всему миру свое стремление к переменам, которые уже близки". "Не забывая о прошлом, мы думаем, конечно, прежде всего о будущем, - отмечает политик. - В новом году нам вместе предстоит сделать решительные шаги, которые, я уверен, в конечном итоге приведут к окончательной победе над беззаконием и коррупцией, распространяющимися с верхних этажей власти, над бюрократией и неуважением к человеку".

По мнению А.Войтовича, "эпоха Лукашенко подходит к концу и вскоре станет достоянием истории". Последний год, по его словам, показал, что "властная верхушка страны потеряла авторитет в международном сообществе". "Политика, проводимая ею, неадекватна современному миру и чревата тяжелейшими последствиями для белорусского народа.

**TUT.BY**

## Актывісты руху "Разам" ушанавалі памяць Вінцэнта Гадлеўскага

**Ва ўрочышчы Благаўшчына на тэрыторыі былога канцлягеру Трасьцянец актывісты руху беларускай салідарнасьці "Разам" ладзілі мерапрыемства, прысьвечанае памяці сьвятара айца Вінцэнта Гадлеўскага, растралянага фашыстамі 24 сьнежня 1942 году.**

Паводле Вячаслава Сіўчыка трапіць ва ўрочышча ўдалося толькі 50 чалавекам. Машыны і мікрааўтобусы, у якім ехалі дзясяткі людзей, затрымліваліся супрацоўнікамі ДАІ. Сіўчык: "Затрымлівалі людзей, каб перашкодзіць трапіць на тое месца, дзе расстралялі Гадлеўскага. Машыны і аўтобусы спынялі. Напрыклад, маю машыну, у якой знаходзіліся яшчэ карэспандэнт "Народнай волі" Аляксандар Макаеў і адзін зь сяброў незарэгістраванай арганізацыі пэнсіянэраў Уладзімер Рамаоўскі. Нас абсалютна беспадстаўна даставілі ў аддзяленьне міліцыі ў Шабанох.

**паводле Радыё "Свабода"**

# Гудбай 24 - е скліканне

працяг. пачатак на с. 1

Валянціна Іочіфаўна з задавальненнем адказала на мае пытанні. Але ж з тым як павінны быць выдаткаваны сродкі я не пагадзіўся. Галасаваў супраць прыняцця такога бюджэта, з якога мы павінны карміць БРСМ, "Зару над Нёманам". Лічу што члены БРСМ могуць самі зарабляць на сваю дзейнасць. А раённая газета мае грошы з падпіскі. Не для каго не сакрэт што падпіска ў нас прымусовая. Бедныя паштальёны прыходзяць і моляць каб хоць на нешта падпісаўся, бо кіраўніцтва патрабуе план. У адных маіх сяброў аж дзве "Советсских Белоруси" прыходзяць, таму што мужа прымусілі падпісацца на працы і жонку таксама. Таму я супраць выдаткавання 35 мільёнаў рублёў на "Зару над Нёманам". Газета павінна быць самаакупаемай. **А грошы лепш на рамонт дахаў і двароў выдаткаваць.**

Выступіў на сесіі раённага Савета і генеральны дырэктар ААТ "Мастоўдрэў" сп. Асосаў.

Кіраўнік нашага галоўнага прадпрыемства даў мясцовая уладзе дакладна зразумець, што Мастоўдрэў можы выжыць толькі ў 2 ух выпадках. Ці 100 % падтрымка дзяржавы да 2010 года ці 50 %.

Казалі пра недахоп сродкаў на развіццё аграгарадкоў, фінансаванне аддзела культуры, пра тое што СПК "Адама Міцкевіча" атрымала 1 мільярд страт, таму што няма куды прадаць цукровы бурак. І гэтая сельгаскультура гніе.

На прыканцы сесіі нязменны старшыня Мастоўтоўскага раённага Савета дэпутатаў Георгій Каробка павіншаваў дэпутатаў з надыхо-дзячым Новым годам і разам з старшынёй райвыканкама сп. Шэфарэвічам уручыў дэпутатам граматы райсавета і райвыканкама. Кожны з дэпутатаў атрымаў на заканчэнне сваіх паўнамоцтваў кнігу "Памяць" Мастоўскі раён.

Мне сп. Каробка параіў задаваць менш пытанняў. Атрымоўваецца, што дэпутаты павінны маўчаць і не ўздымаць праблемы сваіх выбаршчыкаў.

Кіраўніцтву лепш вядома, дзе дахі цякуць і дзе ў падвале вада гадамі стаіць. Таму пытанні лепш не задаваць.

**Дэпутат Мастоўскага раённага Савета,**
**Аляксандр Зарэмбюк.**

## Минюст приостановил действие «Белорусского клуба избирателей»

**11 декабря в Верховном суде Беларуси состоялось рассмотрение дела по иску Минюста о приостановлении деятельности негосударственной организации, которая проводила независимое наблюдение за выборами общественного объединения «Белорусский республиканский клуб избирателей». В течение текущего года Минюст вынес два предупреждения ОО «БРКИ» и на основании этого потребовал приостановить его деятельность сроком на 6 месяцев.**

Несмотря на то, что первое основание для приостановления деятельности организации не нашло доказательств во время судебного рассмотрения, Верховный суд посчитал существенным второе отсутствие офисного помещения по зарегистрированному юридическому адресу и вынес решение о приостановлении деятельности «Белорусского республиканского клуба избирателей» сроком на 6 месяцев. Данное решение Верховного суда не может быть обжаловано. В случае, если упомянутая причина в течение полугода будет ликвидирована, деятельность ОО «БРКИ» может быть продолжена.

Сейчас уже бывший председатель общественного объединения «Белорусский республиканский клуб избирателей» Владимир Гудеев считает, что приостановление деятельности общественного объединения равнозначно его ликвидации, и таким образом, в стране не останется независимой общественной структуры, которая могла бы осуществлять массовое нейтральное наблюдения за выборами. Кроме того, председатель объясняет отсутствие средств для аренды офиса нежеланием спонсоров помочь работе независимых наблюдателей.

**Отдел политики**
**«Мастоўскай праўды»**

## Мнение

**А. Грицанов:**

**"Для чего в принципе оппозиции нужен новый лидер? Я полагаю, что при нынешней системе организации подсчета голосов в ситуации лобового столкновения никто из ныне здравствующих и живших ранее лидеров, включая Иисуса Христа и всех его наместников, переиграть Лукашенко не в состоянии. Те, кто считает голоса, посчитают их как надо, потому что они боятся Лукашенко больше, чем Божьего суда. Если бы действительно удалось добиться ситуации, при которой голоса считали бы нормально, как, например, считали голоса, когда Пиночет проиграл выборы, тогда поиск нового лидера-харизматика имел бы очень высокий смысл. Ну а в нынешних условиях вполне подходит Милинкевич: он совещается, он получает премии, он поддерживает Козулина, поддерживает кого-то еще…"**

## Пасмяемся разам у год Свінні




## Безальтэрнатыўным кандыдатам будзе складана

**У 3093 акругах па выбарах у мясцовыя Саветы дэпутатаў на Гродзеншчыне быў вылучаны 3251 кандыдат, аднак не ўсе з іх атрымалі права на барацьбу за давер выбаршчыкаў.**

Пасля праверкі акруговымі і тэрытарыяльнымі выбарчымі камісіямі адпаведнасці дакументаў аб вылучэнні кандыдатаў у дэпутаты патрабаванням выбарчага заканадаўства, а таксама дакладнасці біяграфічных звестак і ўказаных звестак аб даходах і маёмасці зарэгістраваны 3174 кандыдаты ў дэпутаты. На 60 мандатаў у абласны Савет 81 прэтэндэнт, на 574 у раённыя 593, на 30 у Гродзенскі гарадскі 60, на 40 у гарадскія (гарадоў раённага падпарадкавання) 40, на 185 у пасялковыя 189 і на 2204 у сельскія Саветы 2211.

Паводле інфармацыі старшыні абласной выбарчай камісіі Леаніда Лучыны, найбольш распаўсюджанымі парушэннямі, з-за якіх было адмоўлена ў рэгістрацыі кандыдатам у дэпутаты, з'яўляліся няправільнае ўказанне даходаў і неправамоцнасць подпісаў грамадзян. На яго думку, безальтэрнатыўным кандыдатам будзе нават больш складана ў параўнанні з тымі акругамі, дзе ёсць канкурэнцыя, паколькі ім трэба набраць больш за 50 працэнтаў галасоў. А вось кандыдату, у якога ёсць канкурэнт, дастаткова любой большасці.

Сярод зарэгістраваных кандыдатаў у дэпутаты больш за палову (52,5 працэнта) раней ужо з'яўляліся дэпутатамі, а 6 чалавек грамадзяне Расійскай Федэрацыі. Амаль 40 працэнтаў кандыдатаў гэта работнікі сельскай гаспадаркі, 11 прадстаўнікі прамысловасці, транспарту і будаўніцтва, 14,4 адукацыі, 9,4 аховы здароўя і сацыяльнай абароны, 4,5 ваеннаслужачыя і работнікі праваахоўных органаў, 13,64 служачыя дзяржаўных органаў, 0,63 непрацуючыя (акрамя пенсіянераў і студэнтаў), а 15,5 працэнта кандыдатаў прадстаўляюць іншыя сферы дзейнасці.

Цяпер праходзіць этап перадвыбарнай агітацыі. Мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі па ўзгадненню з адпаведнымі выбарчымі камісіямі вызначаны памяшканні для сустрэч кандыдатаў у дэпутаты з выбаршчыкамі, выдзелены месцы для размяшчэння агітацыйных друкаваных матэрыялаў. Можна сустракацца з выбаршчыкамі і на рынках, вуліцах, але, адзначыў Леанід Лучына, толькі па ўзгадненню з мясцовымі органамі ўлады.

**Барыс ПРАКОПЧЫК**

**МАСТОЎСКАЯ ПРАЎДА**
грамадска-інфармацыйнае выданне Мастоўшчыны
№ 18 (26) 29 снежня 2006 г.
**Заснавальнік: Аляксандр Зарэмбюк.**
дэпутат 24 склік. Мастоўскага райсавета.
**Галоўны рэдактар: Ігар Шчэкарэвіч.**
**Вярстальшчык: Сяргей Губарэвіч.**
Наклад: 299 асобнікаў.
Адрас рэдакцыі: г. Масты вул. Я.Купалы 1 . Беларусь.
e-mail: **masty06@yahoo.com**
Надрукавана на фінасавыя ахвяраванні жыхароў г. Масты ў друкарні ААТ Бліц-Прынт, г. Кіеў вул. Даўжэнка, 9.
Выходзіць 1 раз на тыдзень.
**Распаўсюджваецца бясплатна.**
Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць інфармацыі. Іх меркаванне можа не супадаць з пунктам гледжання рэдакцыі і не накладваюць на яе ніякіх абавязкаў.